Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь і Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь № 836/28

# Аб мерах па забеспячэнню разлікаў за сельскагаспадарчую прадукцыю і прадукты харчавання

У сувязі з надзвычайнай абстаноўкай, якая склалася ў выніку неаплаты нарыхтоўчымі, перапрацоўчымі і гандлёвымі арганізацыямі пастаўленых ім сельскагаспадарчай прадукцыі і прадуктаў харчавання, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь і Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь пастанаўляюць:

1. Абавязаць прадпрыемствы і арганізацыі сістэмы Міністэрства сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання, Міністэрства гандлю і Белкаапсаюза накіроўваць уласныя сродкі і банкаўскія крэдыты ў першую чаргу на аплату сельскагаспадарчай прадукцыі і харчовых тавараў першай неабходнасці (хлеб, цукар, мяса, малако і іншыя).

Звярнуць увагу кіраўнікоў аблвыканкомаў і Мінскага гарвыканкома, міністра гандлю Байдака В.І. і старшыні праўлення Белкаапсаюза Грышчанкова Р.З. на недапушчальнасць набыцця гандлёвымі прадпрыемствамі віна-гарэлачных і кандытарскіх вырабаў імпартнай вытворчасці, дарагой мэблі, прадметаў раскошы ва ўмовах, калі атрыманая імі ад вытворцаў сельскагаспадарчая і сацыяльна значная прадукцыя працяглы час не аплачваецца.

Папярэдзіць В.І.Байдака і Р.З.Грышчанкова аб іх персанальнай адказнасці за мэтавае выкарыстанне цэнтралізаваных крэдытных рэсурсаў у суме звыш 50 млрд. рублёў, выдзеленых у II квартале 1993 г. на аплату хуткарэалізуемых харчовых тавараў.

2. Камерцыйным банкам выдзеліць у снежні 1993 г. на тэрмін да шасці месяцаў наяўныя і выслабаняемыя за кошт пагашэння раней выдадзеных пазык крэдытныя рэсурсы ў суме не менш як 125 млрд. рублёў на правядзенне разлікаў за сельскагаспадарчую прадукцыю і прадукты харчавання, а таксама паліўна-энергетычныя рэсурсы, з размеркаваннем згодна з дадаткам.

3. Прыняць да ведама, што:

3.1. У мэтах стварэння неабходных умоў для завяршэння перапрацоўкі сельскагаспадарчай прадукцыі Нацыянальным банкам прадастаўлена Аграпрамбанку адтэрміноўка вяртання цэнтралізаваных крэдытных рэсурсаў у суме 100 млрд. рублёў да 1 красавіка і ў суме 50 млрд. рублёў да 1 ліпеня 1994 г.

Аграпрамбанку сумесна з перапрацоўчымі прадпрыемствамі вызначыць канкрэтныя тэрміны пагашэння адтэрмінаванага крэдыту на аснове штомесячных графікаў перапрацоўкі сельскагаспадарчай прадукцыі, ажыццяўляць жорсткі кантроль за іх выкананнем і наяўнасцю матэрыяльнага забеспячэння крэдыту;

3.2. З чэрвеня 1993 г. разлікі за сельскагаспадарчую прадукцыю дазволена праводзіць пры дапамозе плацежных патрабаванняў са змяшчэннем несвоечасова аплачаных дакументаў у спецыяльную картатэку ўліку неплацяжоў. Павысіць з 15 снежня 1993 г. размер налічваемай пені за несвоечасовую аплату сельскагаспадарчай прадукцыі з 0,5 да 1 працэнта за кожны дзень пратэрміноўкі плацяжу.

Устанавіць, што адсутнасць сродкаў у плацельшчыкаў не з'яўляецца падставай для непрымянення да іх санкцый за несвоечасовасць разлікаў.

4. Міністэрствам, ведамствам, суб'ектам гаспадарання ўсіх форм уласнасці прыняць неабходныя меры па абавязковаму пераафармленню пратэрмінаванай запазычанасці вэксалямі.

5. Дэпартаменту эканамічнага кантролю пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь з удзелам Міністэрства гандлю і Белкаапсаюза неадкладна арганізаваць праверку захавання гандлёвымі арганізацыямі і аптовымі базамі патрабаванняў пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 26 сакавіка 1993 г. № 179 і распрацаванага ў адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 18 чэрвеня 1993 г. № 401 парадку індэксацыі абаротных сродкаў суб'ектаў гаспадарання з улікам інфляцыі, прымяняць меры адміністрацыйнай і матэрыяльнай адказнасці да службовых асоб, якія не забяспечылі выкананне ўказаных нарматыўных актаў. Аб выніках праверкі і прынятых мерах даложыць Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь да 15 студзеня 1994 г.

**Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь**
**В.КЕБІЧ.**

**Старшыня праўлення Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь**
**С.БАГДАНКЕВІЧ.**

10 снежня 1993 г.
г.Мінск.

## ДАДАТАК

**да пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь і Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь ад 10 снежня 1993 г. № 836/28**

*Мінімальны размер крэдытных рэсурсаў, якія накіроўваюцца на правядзенне разлікаў за сельскагаспадарчую прадукцыю і прадукты харчавання, а таксама паліўна-энергетычныя рэсурсы*

(млрд. рублёў)

| Назва банкаў | сума | у тым ліку: Мінгандаль | Белкаапсаюз | на аплату паліва |
|---|---|---|---|---|
| Аграпрамбанк | 35,0 | — | 35,0 | — |
| Белпрамбудбанк | 33,0 | 13,0 | — | 20,0 |
| Белбізнесбанк | 25,0 | 25,0 | — | — |
| Прыярбанк | 8,0 | 8,0 | — | — |
| Банк "Беларусь" | 5,0 | 5,0 | — | — |
| Віткамбанк | 4,0 | 4,0 | — | — |
| Банк "Пошук" | 4,0 | 4,0 | — | — |
| Вітбанк | 3,0 | 3,0 | — | — |
| Банк "Дукат" | 3,0 | 3,0 | — | — |
| Прафбанк | 1,5 | 1,5 | — | — |
| Белсувязьбанк | 1,5 | 1,5 | — | — |
| Народны банк | 1,0 | 1,0 | — | — |
| Банк "Комплекс" | 1,0 | 1,0 | — | — |
| Усяго | 125,0 | 70,0 | 35,0 | 20,0 |

Заўвага. Крэдыты могуць прадастаўляцца як непасрэдна суб'ектам гаспадарання, так і банкам, у якіх адкрыты рахункі пазыкаатрымальнікаў.

Кіраўнік спраў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь **М.КАЎКО.**

◆ *ПАЗІЦЫЯ*

# Дэпутаты не павінны ўпусціць апошні шанц

Работа чарговай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па прыняццю жыццёва важных для насельніцтва нашай рэспублікі дакументаў праходзіць вельмі складана. Я, як і большасць суайчыннікаў, чакаю ад народных дэпутатаў здаровай разважлівасці, прафесіяналізму ў рабоце, менш эмоцый, менш палітычных амбіцый, больш узважаных і канструктыўных рашэнняў.

І наша рэспубліка, і ўсе рэспублікі былога Саюза перажываюць глыбокі палітычны, эканамічны і духоўна-маральны крызіс у сувязі з развалам Саюза. Усё, што было створана, завявана і аднаўлена крывёй, мазалямі і потам старэйшага і нашага пакаленняў, разбурана, а новага яшчэ нічога не створана, каб сапраўды рэальна палепшыць жыццё нашых людзей. Разбурана адзіная вялікая шматнацыянальная дзяржава, парушаны эканамічныя, вытворчыя, культурныя, сваяцкія і іншыя традыцыйныя сувязі, якія склаліся гістарычна. Ідзе рэзкае скарачэнне вытворчасці, з'явіліся беспрацоўныя і жабракі. Працягваецца дзікае, абвальнае, некіруемае і эканамічна неабгрунтаванае павышэнне цэн. Павышэнне размераў аплаты працы, пенсій і дапамог не адпавядае росту цэн, не мае папераджальнага характару і вядзе да збяднення большасці людзей. Далей так жыць нельга, мы падышлі да небяспечнай мяжы.

Выйсце з гэтай тупіковай сітуацыі мне бачыцца толькі ў аб'яднанні былых рэспублік СССР на добраахвотнай аснове ў абноўлены Саюз раўнапраўных суверэнных рэспублік. Упэўнен, што толькі ўсе разам, толькі пры адзінай эканамічнай, мытнай прасторы, пры адзінай грашова-крэдытнай і фінансавай сістэме, адзінай падатковай, цэнавай, бюджэтнай палітыцы і агульным рынку можна выйсці з крызіснага тупіка, пазбегнуць далейшага развалу эканомікі і збяднення людзей, стварыць матэрыяльна-тэхнічную базу, палітычныя і эканамічныя ўмовы і стабільнасць у грамадстве для паступовага пераходу да рыначнай эканомікі. Прычым асновай народаўладдзя павінны застацца Саветы народных дэпутатаў як на месцах, так і ў цэнтры. Эканоміка пры любых умовах павінна быць на першым плане. Палітыкам заўсёды трэба помніць, што любыя рэформы сілай, зверху, за спінай народа і за кошт народа праводзіць нельга.

Асобныя народныя дэпутаты Вярхоўнага Савета рэспублікі лічаць, што ўваходжаннем у Саюз парушаецца суверэнітэт дзяржаў. У нашым свеце ўсё ўзаемазвязана, ні адна дзяржава ў поўнай ізаляцыі ад іншых пражыць не зможа. Разбурэнне традыцыйных сувязей рэспублік былога Саюза — гэта тое ж самае, што і расцягванне запасных частак аднаго вялікага механізма...

На маю думку, на гэтай сесіі новую Канстытуцыю канчаткова прымаць нельга. Асноватворныя артыкулы яе трэба папярэдне вынесці на ўсенародны рэферэндум Рэспублікі Беларусь. Для таго, каб змяніць грамадска-палітычны лад, эканамічныя і вытворчыя адносіны, вызначыць герб, флаг, гімн дзяржавы, яе структуру, органы вышэйшай і мясцовай улады, границы дзяржавы абавязкова неабходна ўсенародная згода, што можна забяспечыць толькі ўсенародным галасаваннем. Тым больш, што ў апошнім праекце новай Канстытуцыі няма чоткага вызначэння права грамадзян на працу, на бясплатную адукацыю, ахову здароўя.

У сувязі з вядомымі крывавымі падзеямі ў Маскве, лічу немэтазгодна ўводзіць інстытут прэзідэнцтва ў нашай рэспубліцы. На мой погляд, у нас павінен быць моцны прафесійны Вярхоўны Савет і моцны прафесійны Савет Міністраў і іх структуры на месцах. Спадзяюся, што народныя дэпутаты не ўпусцяць свой апошні шанц, не дапусцяць далейшага развалу нашай эканомікі і збяднення людзей, успомняць свае перадвыбарныя абяцанні і прымуць такія эканамічныя законы і палітычныя рашэнні, якія сапраўды будуць накіраваны на ўздым нашай эканомікі і рэальнае паляпшэнне жыцця людзей.

**А. СКОРЫНАЎ,**
старшыня абласнога праўлення Асацыяцыі бухгалтараў Рэспублікі Беларусь.

**(Ганарар за гэтую публікацыю перадаю ў фонд падтрымкі маёй любімай газеты).**

# ВА ЎРАДЗЕ РЭСПУБЛІКІ

*Савет Міністраў рэкамендаваў мясцовым Саветам народных дэпутатаў прадставіць да 1 красавіка будучага года ў аддзяленні Ашчаднага банка спісы грамадзян, якія маюць права на атрыманне імянных прыватызацыйных чэкаў "Маёмасць". Прынята адпаведная пастанова, якой зацверджана прыкладнае палажэнне аб рабоце тэрытарыяльнай камісіі па складанню такіх спісаў.*

***

*Сумеснай пастановай Савета Міністраў і Нацыянальнага банка Беларусі з сямікратнай да пяцідзесяці кратнай мінімальнай заработнай платы павялічана сума куплі нехарчовых тавараў, пры якой продаж пакупнікам праводзіцца па разавых чэках Ашчаднага банка, а таксама па чэках з яго чэкавых кніжак і банкаўскіх чэкавых кніжак новага ўзору. Нехарчовыя тавары коштам ніжэй за ўказаную суму рэалізуюцца як за наяўныя грошы, так і па гэтых чэках. Тавары ў магазінах спажыўкааперацыі ў сельскіх раёнах таксама прадаюцца па такіх чэках. Акрамя таго, пры разліках выкарыстоўваюцца і квітанцыі, якія выдаюцца ўстановамі Ашчаднага і іншых банкаў.*

***

*Да 30 снежня прадоўжаны тэрмін выкупу ў грамадзян рэспублікі аблігацый дзяржаўнай унутранай выйгрышнай пазыкі 1982 года і дзяржаўных казначэйскіх абавязацельстваў былога СССР. Названыя каштоўныя паперы выкупляюцца аддзяленнямі Ашчаднага банка.*

***

*Урадам унесены змяненні ў даходы і расходы рэспубліканскага бюджэту на бягучы год, выкліканыя павышэннем у чацвёртым квартале мінімальнай заработнай платы, ростам цэн на тавары і тарыфаў на паслугі. Адпаведна павялічаны размер сродкаў, перадаваемых па ўзаемных разліках з рэспубліканскага ў мясцовыя бюджэты абласцей: Брэсцкай — на 11.707 мільёнаў рублёў, Віцебскай — на 10.220,9 мільёна, Гомельскай — на 4.433, Гродзенскай — на 10.086,6, Мінскай — на 13.216,7, Магілёўскай — на 10.653,8 мільёна, а таксама з мясцовых бюджэтаў г. Мінска ў рэспубліканскі бюджэт — на 6.599,4 мільёна рублёў.*

***

*Згодна з распараджэннем Саўміна ад 8.12.93 г. выкананне беларускімі прадпрыемствамі і аб'яднаннямі першачарговых паставак прадукцыі на эквівалентнай аснове па міжурадавых пагадненнях у Расію з'яўляецца падставай для непрымянення да іх штрафных санкцый за недапастаўку прадукцыі па ўнутрырэспубліканскіх дагаворах, заснаваных на заказе для дзяржаўных патрэб. Адпаведнае рашэнне будзе прымацца ў кожным канкрэтным выпадку з улікам заключэння Дзяржэканомплана.*

***

*Старшыня Савета Міністраў Вячаслаў Кебіч падпісаў распараджэнне аб выдзяленні ў бягучым годзе саўгасу "Обаль" Гарадоцкага раёна з рэспубліканскага страхавога фонду 30 мільёнаў рублёў — для правядзення работ па рамонту жылых памяшканняў, што пацярпелі ад урагану.*

***

*У другой палове снежня старшыня Камітэта па сацыяльнай абароне ваеннаслужачых асоб радавога і начальніцкага саставу органаў унутраных спраў, воінаў-інтэрнацыяналістаў, звольненых у запас (адстаўку), і членаў іх сем'яў пры Саўміне рэспублікі М.І.Чаргінец наведае Італію, дзе будзе падпісана пагадненне аб перапахаванні на радзіме астанкаў італьянскіх ваеннаслужачых, якія загінулі ў Беларусі.*

***

*Пастановай Савета Міністраў Смольгаўскай сярэдняй школе Любанскага раёна прысвоена імя вядомага паэта-дэмакрата Уладзіслава Сыракомлі (Людвіка Кандратовіча).*

**Служба інфармацыі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь — Белінфарм.**



**У кожным працоўным калектыве ёсць свае перадавікі, наватары вытворчасці. У калгасе "Іскра Ільіча" Дубровенскага раёна да такіх работнікаў адносяць механізатара Віктара Рэйтузава. Ён можа выконваць любую работу, пачынаючы ад перадпасяўной падрыхтоўкі глебы і заканчваючы камбайнавай уборкай збожжа. І заўсёды яго ставяць у прыклад іншым, бо робіць ён усё сапраўды па-гаспадарску.**

**На здымку: В. Рэйтузаў.**

**Фота М. ХУТАРЭЦКАГА.**

# Як стаць уласнікам зямлі?

Іменна пра гэта — як атрымаць кавалак зямлі ў вечнае карыстанне з перадачай па спадчыне ці наогул у прыватную ўласнасць, ішла гаворка на арганізаванай нядаўна Полацкім райвыканкомам сустрэчы са старшынямі садова-агародных таварыстваў, якія прадстаўлялі інтарэсы тысяч дачнікаў з Полацка і Наваполацка.

І ў нас ужо, такім чынам, загаварылі пра прыватную ўласнасць на зямлю. Зусім жа нядаўна гэта лічылася мала што не крамолай. Куды ж падзенешся: у Расіі прэзідэнцкім указам абвешчана прыватызацыя зямлі ў шырокім маштабе, а нашы дэпутаты згадзіліся аддаць дачнікам хоць тыя пяць — дзесяць сотак, якія выдзелены ім на пустэчах ды ў хмызняках, дзе мала што збіралі калгасы і саўгасы, ды прысядзібныя ўчасткі калгаснікам і рабочым саўгасаў.

Прынясе нямала турбот прыватызацыя зямлі. Па-першае, трэба правесці інвентарызацыю кожнага ўчастка: абмераць, скласці план, аформіць адпаведны дакумент. Колькі работы землямерам! А дзе яны, тыя землямеры? Хто будзе аплачваць іх працу? Як і з прыватызацыяй жылля, сама ўласнасць не такая і дарагая, затое афармленне абыдзецца ў немалую суму.

Тым не менш прадстаўнікі садова-агародных таварыстваў праявілі вялікую цікавасць да размовы. Як ні цяжка дачніку, ва ўсякім разе радавому, але ён у дзве рукі гатовы трымацца за квалак зямлі, які ўзяў, каб забяспечыць такім чынам сваёй працай, сваёй руплівасцю гарантаваны ад усякіх капрызаў рынку такі-сякі запас бульбы, агародніны.

**Г. КІРЫЛАЎ.**

♦ СТАРОНКІ ГІСТОРЫІ

# РЭПРЭСІІ СУПРАЦЬ ЧЫРВОНЫХ КАМАНДЗІРАЎ

У 1936 годзе, калі прыступілі да фізічнага разгрому апазіцыі, армія не была забыта. Пачалі браць ваенных, без асаблівага шуму, але з далёкім прыцэлам. Пакуль арышты ішлі ў асноўным у правінцыі. Асаблівую старанасць НКУС праяўляў на Украіне. 5 ліпеня ўзялі камдзіва Дзмітрыя Шміта, камандзіра адзінай тады ў Чырвонай Арміі брыгады цяжкіх танкаў, і Барыса Кузьмічова, начальніка штаба авіязлучэння. Абодва былі даверанымі людзьмі Якіра. Такая ж доля чакала камдзіва Сабліна і іншых.

У ходзе арыштаў Сталін пачаў плаціць па старых рахунках. Каго-каго, а Шміта ён помніў. У дваццатыя ён быў актыўным трацкістам. Былы партызан, чалавек рызыкоўнай храбрасці, Шміт надаваў мала ўвагі кумірам і аўтарытэтам. Выключэнне з партыі Троцкага літаральна напярэдадні XV партз'езда прывяло яго ў шаленства. Апрануты ў чэркеску, з папахай на галаве, ён падышоў да генсека, адпусціў нецэнзурныя словы ў яго адрас і, вынімаючы ўяўляемую шаблю, папярэдзіў: "Глядзі, Коба, вушы адсяку!"

Сталіну давялося праглынуць гэтую знявагу. У 1936 годзе памятлівы Коба не проста адпомсціў Шміту, але і зняў з гэтай справы вяршкі. На жнівеньскім працэсе адзін з дапрошаных паведаміў аб існаванні ў арміі "групы забойцаў" на чале з Дзмітрыем Шмітам.

Потым упамянулі Путну. Праз некалькі дзён пасля гэтага Генеральны пракурор Вышынскі аб'явіў, што справа па абвінавачванню шэрага асоб, названых у паказаннях, выдзелена ў асобную вытворчасць.

Прозвішча Путны, аднак, не было названа. У той час ён знаходзіўся ў Лондане, дзе займаў пасаду ваеннага аташэ. Яго выклікалі ў Маскву, а ў пачатку верасня арыштавалі. Так у лапы трапіў першы з васьмі абвінавачваемых на чэрвеньскім працэсе 1937 года.

Путна ўтрымліваўся на Лубянцы, другога, Тухачэўскага, публічна палівалі брудам, трэці, Якір, адчуваў сябе "як звер у клетцы". Шміту і Кузьмічову прыпісвалі намер забіць наркома ў кабінеце... Якіра.

Трэба аддаць належнае Якіру, ён спрабаваў разарваць кальцо, якое сціскалася. Пайшоў да Сталіна і заявіў, што не верыць у віноўнасць Шміта і Кузьмічова і наогул не надта давярае Яжову. Сталін, які заўсёды сімпатызаваў Якіру, і тут пайшоў насустрач. Якіру далі спатканне са Шмітам, які заявіў, што прыпісваемае яму — хлусня, і перадаў запіску для Варашылава.

Якір наведаў наркома, уручыў запіску і выказаў перакананне ў невінаватасці арыштаваных. Толькі вярнуўся Якір у Кіеў, як пазваніў Варашылаў: "На новым допыце Шміт прызнаўся, што ён хацеў ашукаць і цябе, і мяне. Свае ранейшыя паказанні ён пацвердзіў".

Такія дзеянні як знішчэнне вялізнай арміі не робяцца раптам, па натхненню. Падкоп пад яе павялі загадзя, паралельна з разгортваннем дзяржаўнай змовы. Пачаліся арышты.

Прымакоў. Ён быў выкліканы ў Маскву і выехаў у салон-вагоне. Калі чэкісты зрабілі спробу яго арыштаваць, ён успомніў сваё чырвонаказацкае мінулае і з дапамогай асабістай аховы прымусіў іх уцякаць. Пасля гэтага Прымакоў звязаўся з Варашылавым. "Адбылося непаразуменне, — адказаў нарком. — Да вас едуць людзі, якія ўсё растлумачаць". Хутка прыбыў узмоцнены нарад НКУС. Прымакоў здаў свой маўзер і паехаў на Лубянку.

Тухачэўскі. У пачатку мая 1937 года была раптоўна адменена паездка маршала на каранацыйныя ўрачыстасці ў Лондан. 11 мая Варашылаў выклікаў Тухачэўскага і аб'явіў, што той адхілены ад пасады першага намесніка наркома і прызначаны камандуючым войскамі Прыволжскай ваеннай акругі. Тухачэўскі быў ашаломлены. Ён звярнуўся за растлумачэннем да Сталіна. Расказваюць, што Сталін супакоіў маршала, абгрунтаваўшы яго зняцце блізкім знаёмствам з некаторымі асуджанымі на нядаўнім працэсе: "Мы вам давяраем. Але вам лепш часова паехаць з Масквы, а калі заціхнуць размовы — мы вас вернем".

26 мая Тухачэўскі прыбыў у Самару (г. Куйбышаў) і прыступіў да прыняцця спраў у старога свайго прыяцеля П.Е.Дыбенкі, але ў той жа дзень быў арыштаваны.

Якір. 28 мая ён, член ЦК ВКП(б) і Палітбюро ЦК КП(б) У, атрымаў афіцыйную сакрэтную паперу.

У ёй паведамлялася аб арышце Тухачэўскага і патрабавалася яго згода на ўзбуджэнне крымінальнай справы. Якір адказаў, што ні секунды не сумняваецца ў невінаватасці Тухачэўскага, але супраць суда не пярэчыць, разглядаючы яго як лепшы сродак высвятлення ўсіх аставін. 30 мая камандарму пазваніў Варашылаў і загадаў неадкладна прыбыць у Маскву на пасяджэнне Ваеннага савета. У гэты дзень паяздоў на Маскву ўжо не было, і Якір хацеў выкарыстаць самалёт. Варашылаў, аднак, не дазволіў, прадпісаўшы ехаць ва ўласным вагоне камандуючага. Якір адбыў 31-га а першай гадзіне ночы. Ноччу вагон быў адчэплены ў Бранску. Соннага Якіра ўзялі супрацоўнікі цэнтральнага апарата НКУС і ў аўтамабілі даставілі на Лубянку.

Гамарнік. У апошніх чыслах мая ён быў хворы і ляжаў дома. Прыкладна 31-га да яго прыехаў намеснік Булін і намеснік начальніка Генштаба Смародзінаў — за ключом ад сейфа, дзе захоўваліся матэрыялы, неабходныя для пасяджэння Ваеннага савета. Гамарнік быў засмучаны: ужо было вядома аб арышце Тухачэўскага і іншых. Наведвальнікі, як маглі, стараліся яго супакоіць. Хутка яны развіталіся. Прыкладна праз гадзіну прыйшлі агенты НКУС. У той час, калі дачка Гамарніка адчыняла дзверы гасцям, у яго пакоі раздаліся два пісталетныя выстралы. Па другой версіі Гамарнік застрэліўся адразу пасля візіту Буліна і Смародзінава. Яны быццам бы чулі выстралы, выходзячы з кватэры.

У афіцыйным паведамленні Гамарнік быў названы хаўруснікам падсудных. (Сталін сказаў на Ваенным савеце 4 чэрвеня: "...і Гамарнік, які пазбег суда").

Убарэвіча ўзялі 29 мая. Цяжка сказаць дакладна, дзе гэта адбылося. Па словах дачкі — па дарозе са Смаленска ў Маскву, па іншых звестках — у Маскве на пероне.

Прафесара Акадэміі імя Жукоўскага камкора Г.Д.Гая давялося браць двойчы. Спачатку ён быў арыштаваны ў Мінску ноччу з 2 на 3 ліпеня 1935 года. У Маскве асобая нарада НКУС вызначыла яму пяць гадоў турмы. Па дарозе ў Яраслаўскі палітізалятар Гай змог выламаць дошку з падлогі вагона і выскачыць. Пры гэтым ён пашкодзіў нагу, але ў яго ўсе ж хапіла сіл дабрацца да бліжэйшага поля са стагамі сена. Нягледзячы на боль, стары салдат замаскіраваўся па ўсіх правілах. Ён выкапаў яму пад стогам, забраўся туды і заснуў. Ужо хутка па ўсёй ваколіцы пачаліся пошукі. Аднак яны нічога не далі.

Гай спакойна праспаў увесь гэты час. Прачнуўшыся, ён вырашыў пакінуць сховішча і ісці да людзей. Нага вельмі балела, яды не было. У вёсцы ён увайшоў у крайнюю хату. Гаспадар пазнаў Гая — калісьці служыў у яго падначаленні. Ён расказаў камкору, што яго шукаюць. Праз некалькі дзён Гай вырашыў ехаць у Маскву. Ён дабраўся да станцыі. Начальнік станцыі таксама пазнаў Гая і параіў схавацца. Камкор запатрабаваў сувязі з Масквой і па прамым провадзе пагаварыў з Варашылавым. Той яго супакоіў: "Да вас выязджаюць людзі, усё растлумачаць". Людзі чакаць не прымусілі. На Лубянку Гай трапіў у адну камеру з Путнам.

Блюхер. Першыя рэпрэсіі супраць арміі мала закранулі Далёкі Усход. Але ў канцы мая 1938 года туды прыбыў начальнік Палітупраўлення Чырвонай Арміі Л.З.Мехліс і намеснік наркома ўнутраных спраў Фрыноўскі — кожны ў асобным поездзе. Камандзіраў сталі хапаць сотнямі.

...29 ліпеня на адным з участкаў у раёне возера Хасан адбыўся інцыдэнт. Праз тыдзень пасля заканчэння баёў Блюхера адазвалі ў Маскву. Варашылаў зрабіў яму строгую вымову і загадаў адправіцца на курорт — да вырашэння пытання аб новым прызначэнні.

Блюхер з жонкай і братам, камандзірам авіязлучэння, выехаў у Крым (па іншых даных — у Сочы). Адпачываючы, стары баец шмат думаў аб становішчы, у якім ён аказаўся. Па сведчанню жонкі, у пачатку кастрычніка ён напісаў пісьмо Сталіну. Яго змест прыкладна такі: усё, што адбылося — вынік правакацыі... Я быў цалкам дэзінфармаваны... Мае хлопцы грудзьмі ішлі на кулямёты японцаў... Фрыноўскага і Гаглідзе трэба ўбраць з Далёкага Усходу...

Хутка Блюхера выклікалі ў Маскву і 22 кастрычніка арыштавалі.

Маршал утрымліваўся ў Лефортава. Першы допыт праводзіў свежаспечаны намеснік наркома Л.П.Берыя. Абвінавачанні былі цяжкімі: сувязь з японцамі з 1921 года, намер перабегчы да іх з дапамогай брата-лётчыка. Блюхер усё адмаўляў. Смерць наступіла 9 лістапада. Шляхам апытання сведкаў удалося ўстанавіць, што Яжоў уласнаручна застрэліў Блюхера ў сваім службовым кабінеце. Прыгавор сачынілі над трупам...

Прыведзеныя выпадкі — усяго толькі фрагменты гіганцкай работы па знішчэнню камсастаchoose ву Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі. Рэпрэсіі ахапілі дзесяткі тысяч чырвоных камандзіраў. З вясны 1937 года арышты ваенных праводзіліся ў масавым парадку. Гэтае паляванне за людзьмі працягвалася да позняй восені 1938 года. Яго заканчэнне можна ўмоўна звязаць са знішчэннем Блюхера і падзеннем Яжова. У наступныя гады рэпрэсіі супраць чырвоных камандзіраў хоць і не спыніліся, але сталі разрозненымі, адзінкавымі.

В.РАПАПОРТ.
Ю.АЛЯКСЕЕЎ.
(Прэс-цэнтр «АЖУР»).



«Дыялог».
Фота І. ГУЛЕВІЧА.

# Ад усёй душы

= Радкі з пісьмаў =

• Няхай будуць і ў далейшым такімі спагадлівымі і ветлівымі, як зараз, участковы ўрач 2-й паліклінікі В.А.Марчанка і медсястра В.В.Шчаглова, урач дзённага стацыянара Ю.Л.Панароўскі і медсястра Таццяна Ляошка, бо менавіта гэтыя медыцынскія работнікі сустракаюць нас ветліва, з добразычлівай усмешкай, стараюцца аблягчыць нашы пакуты...

Мы задаволены вынікамі лячэння і жадаем нашым цудоўным лекарам поспехаў у іх нялёгкай працы і здароўя. Дзякуй ім за чалавечнасць і разуменне чужога болю.

М.НОВІКАВА.
Г.ПОСНІКАВА.

Віцебск.

• Своечасова не ліквідавала небяспечны ачаг хваробы — не выдаліла гланды. І зараз пакутую хранічным танзілітам. Восенню і вясной праходжу курс лячэбна-прафілактычнай тэрапіі. І ўвесь час маім нязменным дарадчыкам і памочнікам з'яўляецца урач-аталарынголаг Т.У.Кахро. Прафесіянальна, цярпліва робіць яна розныя лячэбныя працэдуры, прымяняе новыя сродкі, каб маё самаадчуванне палепшылася.

Ад усёй душы ўдзячна Таццяне Уладзіміраўне за сапраўды мацярынскія клопаты аб маім здароўі і жадаю ёй толькі поспехаў у яе прафесіянальнай дзейнасці і асабістым жыцці.

Г.АЛЯКСАНДРАВА.

Віцебск.

• Вельмі прашу праз "Віцебскі рабочы" выказаць цёплыя словы падзякі майму ўчастковаму ўрачу (3-я гарадская паліклініка) Ю.Н.Шастакову. З душэўнай цеплынёй, светлай усмешкай па першаму закліку спяшаецца доктар да нас, пажылых хворых. Уважліва выслухае нашы скаргі, выпіша неабходныя лекі, падбадзёрыць і, глядзіш, лягчэй стане... Хацелася б, каб у нашых медыцынскіх установах працавала як можна больш такіх урачоў, як Юрый Іванавіч.

Л.КАЗЫРЫЦКАЯ.

Віцебск.

• Маё працоўнае жыццё ў асноўным звязана з фабрыкай "Сцяг індустрыялізацыі". Зараз на пенсіі. Але адміністрацыя не забывае нас. Нядаўна выдзеліла мне пуцёўку ў нашу фабрычную здраўніцу-прафілакторый.

Пасля адпаведнага курсу лячэння і цудоўнага адпачынку адчула сябе значна лепш. Хочацца пажадаць усяму калектыву здраўніцы гасціннасці і добразычлівасці да ўсіх адпачываючых. Асабліва хацела б падзякаваць галоўнаму ўрачу прафілакторыя К.І.Зайцаву, масажыстцы Таццяне Рыгораўне, на жаль, не ведаю прозвішча, афіцыянтцы Л.Я.Аблівальнай...

Т.РУБАН.

Віцебск.

♦ ТЭАТР

# Рыхтуецца прэм'ера

У Беларускім тэатры "Лялька" распачаты рэпетыцыі новага спектакля пад назвай "Яшчэ раз пра Чырвоную Шапачку". Аўтары п'есы, якая прайшла па многіх сцэнах СНД з вялікім поспехам, украінскія драматургі Сяргей Яфрэмаў і Сямён Коган. Першы з іх — галоўны рэжысёр Кіеўскага гарадскога тэарта лялек, другі — драматург і кінасцэнарыст, аўтар сцэнарыяў многіх папулярных мультфільмаў. Тэкст п'есы "Яшчэ раз пра Чырвоную Шапачку" пераклала на беларускую мову наша зямлячка з г.п. Падсвілле, што на Глыбоччыне, член Саюза пісьменнікаў Беларусі Марыя Баравік. Яна ж аўтар тэкстаў песень да будучага спектакля. Музыку напісаў наш пастаянны сааўтар кампазітар Алег Залётнеў. Пастаноўку ажыццяўляе мастацкі кіраўнік тэатра Віктар Клімчук. Ён вырашае спектакль у жанры "Зусім верагоднага здарэння", выкарыстоўваючы прыём "тэатра ў тэатры". Гэта будзе лёгкае, вясёлае, імправізаванае відовішча. Адрасаваны спектакль маленькаму гледачу. Мастацкае афармленне, прыбліжанае да еўрапейскага тэатра марыянетак, прыдумаў Алесь Сідараў. Прэм'ера спектакля адбудзецца ў пачатку студзеня 1994 года. А наперадзе...

Акцёр тэатра "Лялька" Юрась Сяменчанка прыступіў да новай работы (першай, прынамсі, была "Русалачка" Н.Гернэт паводле Г.Х.Андэрсена) па п'есе латышскага драматурга Хірманіса Паўкша "Касмічная казка". Дзеянне адбываецца на Зямлі і ў далёкім космасе. Прэм'ера адбудзецца вясной. Вясной тэатр прыме чынны ўдзел і ў рэспубліканскім фестывалі дзіцячых тэатраў, які адбудзецца ў Маладзечне, а таксама будзе праводзіць у сябе дома свята беларускай лялькі ў апошняй дэкадзе красавіка на працягу чатырох дзён. Мы маркуем запрасіць гасцей з лялечных тэатраў Беларусі, а можа, і з бліжняга замежжа.

Тэатр запрасіў на пастаноўку п'есы нямецкага драматурга Х.Гюнтэра "Насарог і Жырафа" галоўнага рэжысёра Смаленскага абласнога тэатра лялек Віктара Савіна. Спектакль будзе рыхтавацца ў верасні 1994 года.

Маркуецца таксама запрашэнне мастацкага кіраўніка нашага тэатра Віктара Клімчука на разавую пастаноўку ў Смаленск.

Навіны па Беларускаму тэатру "Лялька" сабраў
Юрась ІВАНОЎСКІ.

♦ СПОРТ

## Тройчы чэмпіён

У Віцебску завяршыўся адкрыты чэмпіянат вобласці па шашачнай кампазіцыі. Ён праводзіўся па трох раздзелах: праблемы, задачы ў рускіх шашках, на стаклетачнай дошцы. Выдатна выступіў кандыдат у майстры спорту па шашачнай кампазіцыі віцяблянін А.Акуліч, які першынстваваў ва ўсіх відах праграмы.

Адначасова разыгрываліся грашовыя прызы на лепшую канцоўку і задачу на малой дошцы. Поспех спадарожнічаў І.Жгулёву (г.Луга Ленінградскай вобласці), В.Ганчару (в.Пружаны Мінскай вобласці) і Э.Скляру (г.Самара).

Многія шашысты набралі ачкі майстарскія і масавых спартыўных разрадаў, а два творы "пацягнулі" на гросмайстарскія балы.

А.БАРЫСАЎ.

## Медалі ўсіх вартасцей

Гімнасты Віцебскай дапаможнай школы вярнуліся з першага спецыяльнага Алімпійскага фестывалю Расіі, які быў прымеркаваны да Міжнароднага дня інвалідаў. Геаграфія яго ўдзельнікаў вельмі шырокая. У фестывалі прынялі ўдзел юныя спартсмены Сахаліна і Хабараўскага краю, Дагестана і Калінінграда, а таксама госці са Злучаных Штатаў Амерыкі, Англіі. Рабяты сапернічалі ў шматлікіх віктарынах і конкурсах, дыскатэках і гульнях, знаёміліся са славутымі мясцінамі Масквы.

І, канечне ж, самыя моцныя ўражанні засталіся ад спаборніцтваў па розных відах спорту. Нашы юныя спартсмены прынялі ўдзел у паказальных выступленнях па спартыўнай гімнастыцы, памераліся сіламі з равеснікамі ў лёгкай атлетыцы. У актыве каманды з берагоў Дзвіны медалі ўсіх вартасцей, у тым ліку чатыры — найвышэйшай пробы.

Цяпер юныя энтузіясты рыхтуюцца да рэспубліканскіх спаборніцтваў, не губляюць надзеі трапіць на еўрапейскія спецыяльныя Алімпійскія гульні, якія адбудуцца ў Партугаліі ў кастрычніку 1994 года.

Л.МАЁРАВА,
выдатнік адукацыі, заслужаны трэнер Рэспублікі Беларусь.

## Майстар ёсць майстар

Прымае віншаванні выкладчык медінстытута, майстар спорту Міхаіл Клімянок. Услед за званнем чэмпіёна вобласці па шахматах ён заваяваў і тытул мацнейшага ў Віцебску. Міхаіл Клімянок роўна правёў турнір і набраў 9 ачкоў з 11 магчымых. Толькі ў адной партыі чэмпіён прызнаў сваё паражэнне — з урачом паліклінікі імя У.І.Леніна Аляксандрам Камекам, які, зрэшты, заняў трэці радок у турнірнай табліцы. Другое месца дасталося Уладзіміру Лаўрыку, настаўніку матэматыкі СШ № 31. Змястоўную гульню дэманстраваў ветурач Міхаіл Асіпенка. У яго чацвёртае месца.

Упершыню ў чэмпіянаце абласнога цэнтра прымала ўдзел вялікая група школьнікаў. Для юных паклоннікаў Каісы сустрэчы з масцітымі шахматыстамі з'явіліся выдатнай пробай сіл. Хочацца адзначыць поспех Сяргея Захарава, які ў бліжэйшы час можа ўмяшацца ў размеркаванне класных месц не толькі на першынстве Віцебска, але і вобласці.

П.МІХАЙЛАЎ.

◆ *КРЫМІНАЛЬНЫ СЮЖЭТ*

# Сюрпрыз з цвікамі

**Следчы пракуратуры Бешанковіцкага раёна С.Макараў расказвае аб звычайнай па цяперашнім часе "справе" — крадзяжы калгаснай маёмасці. Незвычайнае ў гэтай непрыгляднай гісторыі хіба тое, што ўчынялі злачынства некалі блізкія людзі, цяпер ужо колішнія муж і жонка.**

"Каньячныя струмені", пра якія спяваў Высоцкі, у калгасе "Вядзерава" не адкапалі. А вось іншую "залатую жылу" знайшлі. Наладзілі знешне несамавітую вытворчасць цвікоў, і ў калгасную касу пацяклі грошы. Прадукцыя новага цэха не залежвалася ў складзе, а яго загадчык Леанід Быкоўскі хадзіў ледзьве не ў героях. Ён быў тут і бог, і цар, што называецца. Сам прымаў дрот, сам вырабляў цвікі, сам выдаваў па даверанасці і накладной гатовую прадукцыю.

Ведама ж, матэрыяльна адказны пост. І калі б не адна асечка, Леанід і па сённяшні дзень, напэўна, камандаваў бы даходнай вытворчасцю.

"Ёсць, Валя, цвікі", — шапнуў па-змоўніцку Леанід на вуха былой жонцы Валянціне Быкоўскай. — Калі толкам імі распарадзіцца, сама разумееш..." Празрысты намёк ускружыў галаў жанчыне, яна ўявіла, як прыемна зашамацяць у руках буйныя купюры, упаўне магчыма, не адны "зайчыкі"... Дзе тут устаіш перад спакусай. "Ды каб усё з розумам толькі, — перасцерагла Валянціна." "Няўжо і тут мяне вучыць будзеш?" — адмахнуўся Леанід, красамоўна крутнуўшы пальцам ля скроні.

Ён рыхтаваўся да аперацыі "Цвікі" грунтоўна. Затарыў прадукцыю ў папяровыя мяшкі, склаў іх акуратна, завязаў. І з хвіліны на хвіліну чакаў машыну. ЗІЛ-130 разам з Валянцінай падкаціў да варот цэха ранічкай. Загадзя падрыхтаваныя мяшкі шпурляліся ў кузаў, Быкоўскі паціраў ад задавальнення рукі, прыкідваў, які дождж дэнзнакаў хлыне за аперацыю. Міма праходзіў Юрый Булаўка, прараб. "Штосьці не тое, — Юрый нахмурыў бровы і прыпыніў хаду. — Ці не па ўласнай ініцыятыве дзейнічае начальнік цэха? Старшыні няма. Яго замяшчае Ліхавідаў. А Ліхавідаў не даваў ніякай каманды, наколькі вядома, наконт цвікоў".

Зайшоў у цэх, папрасіў Быкоўскага праясніць сітуацыю. "Не мне, а жонцы патрэбны цвікі, — адмахнуўся ўхіліста той". "Без дазволу вываз ведаеш чым пахне?" — Булаўка паспрабаваў абразуміць Быкоўскага. Але кіраўнік цэха не зважаў на гэта і працягваў сваю справу...

Давялося паінфармаваць аб здарэнні А.Ліхавідава. Выконваючы абавязкі старшыні звярнуўся ў міліцыю за дапамогай.

Злачынства было спынена. Аперацыя "Цвікі", распрацаваная Быкоўскімі, ніякіх дывідэндаў ім не прынесла, апроч павесткі ў суд. Леанід атрымаў два гады папраўчых работ з канфіскацыяй паловы асабістай маёмасці. Валянціна — паўтара года папраўчых работ.

Ці трэба здзіўляцца, што сюрпрыз з цвікамі прыпаднёс менавіта ён, начальнік цэха? Наўрад. Леанід характарызаваўся адмоўна. П'янстваваў. Але праўленне лічыла, напэўна, што "пры выкананні абавязкаў" чалавек надзейны. Ды пралічылася, як бачыце. Самы час цяпер падумаць аб тым, каб падобныя прыкрыя няўвязкі не здараліся ў далейшым, каб на матэрыяльна адказныя пасты траплялі людзі сумленныя, адказныя, а не такія, як Быкоўскі.

**С. МАКАРАЎ,**

следчы пракуратуры Бешанковіцкага раёна.




По абодва бакі прылаўка.

Фота Г. ЖУКАВА.

## Кожнаму па 500 долараў

Ужо ў канцы снежня апошні ўдзельнік праграмы Фонду Сораса, аб'яўленай год таму сярод вучоных Беларусі і прызначанай падтрымаць фундаментальную навуку, атрымае за свой навуковы праект чэк на 500 долараў ЗША.

На працягу паўгода вучоным рэспублікі, чые навуковыя тэарэтычныя і практычныя праекты былі прызнаны лепшымі, Фонд Сораса і створаны пры ім Міжнародны навуковы фонд адкрывалі валютныя рахункі ў сталічным "Прыярбанку". 672 вучоныя былі адзначаны валютнымі прэміямі.

Белінфарм.

◆ *ВЕСТКІ З ТАЛАЧЫНА*

## Магазін для малазабяспечаных

У райцэнтры пачаў працаваць магазін для малазабяспечаных людзей. Паслугамі яго карыстаюцца інваліды і ўдзельнікі Вялікай Айчыннай вайны, сем'і загінуўшых воінаў і партызан, удзельнікі ліквідацыі аварыі на ЧАЭС і некаторыя іншыя катэгорыі насельніцтва. Тут можна набыць, напрыклад, бялізну і пасцельныя прыналежнасці па значна ніжэйшых, чым у звычайных гандлёвых кропках, цэнах. Хаця, шчыра кажучы, кошт асобных тавараў і ў гэтым магазіне ўражвае.

Названы магазін часова размешчаны ў былой "Скупцы", а неўзабаве пяройдзе ў новы прасторны будынак, спецыяльна пабудаваны для гэтай мэты ў цэнтры горада.

## Пад сцягам «суверэнізацыі»

У канцы 60-х гадоў раённая пракуратура і раённы народны суд размяшчаліся ў асобных будынках, якія былі ў розных кутках горада. Затым для іх быў узведзены двухпавярховы асабняк і гэтыя дзяржаўныя інстанцыі працяглы час праіснавалі пад адным дахам. Але, як кажуць, час ідзе і ўсё мяняецца. Па ўсім бачна, наступае "суверэнізацыя" і для іх: па рашэнню вышэйстаячых органаў народны суд застанецца працаваць на сваім месцы, а для пракуратуры ўзводзіцца новы будынак.

Хутка пачнецца і будаўніцтва будынка Ашчаднага банка раёна, які туліцца ў цесных пакойчыках мясцовага Аграпрамбанка.

## Спявай, гітара!

Каля 30 гадоў працуе ў раённым вузле сувязі В.С.Анішчанка. Зараз ён — інжынер АТС, добры спецыяліст, паважаны ў калектыве чалавек.

А ў вольны ад работы час Васіль Сцяпанавіч захапляецца паэзіяй і музыкай. Сам піша вершы, музыку і выконвае свае песні пад гітару.

В.С.Анішчанка нядаўна прымаў удзел у раённым конкурсе "Сярэбраная струна" і заняў другое месца. Самадзейнага выканаўцу запрашаюць да сябе ветэраны, школьнікі горада.

**А.МАЗУР.**

# Ваш сад — агарод

## Як выратаваць часнок

У нас шмат азімага часнаку. Амаль два вядры сабралі ў жніўні. Частку захоўвалі ў кватэры, частку — у падвале. Але зберагчы яго цяжка, пачаў псавацца. Падкажыце некалькі рэцэптаў, як яго замарынаваць. Не хочацца ж, каб прапаў. У суседзяў мы каштавалі, атрымаўся нясмачны. Таму і просім некалькі рэцэптаў. Паспрабуем іх, выберам лепшы.

**Г.ЛАПАЦІНА.**

г.Віцебск.

**МАРЫНАВАНЫ ЧАСНОК.** Прыгатуйце марынадную залiўку. У эмаліраваную каструлю наліце 200 г 9-працэнтнага воцату, 200 г вады. Дадайце 20 г солі, 50 г цукру, 4 зярняты чорнага перцу, 3 лаўровыя лісцікі, 2 чайныя лыжкі хмелі-сунелі. Пагрэйце да кіпення, тут жа здыміце і ахаладзіце.

Галоўкі часнаку раздзяліце на асобныя зубкі і здыміце з іх сухую абалонку. Адзін кілаграм падрыхтаванага такім чынам часнаку змясціце ў друшляк і, апарыўшы яго салёным кіпенем (50 г солі на 0,5 л вады), хутка ахаладзіце (апусціце друшляк на паўмінуты ў таз з халоднай вадой). Падрыхтаваны часнок пакладзіце ў слоік і заліце марынадам. Слоік накрыйце аркушам шчыльнай паперы і захоўвайце пры 15—22°С.

**МАЛАСОЛЬНЫ ЧАСНОК.** Прыгатуйце расол (80 г солі на 1 л цёплай вады). Часнок падрыхтуйце так, як сказана ў ранейшым рэцэпце, толькі яго не трэба апарваць кіпенем.

У трохлітровы слоік усыпце крыху насення кропу, пакладзіце карэньчык хрэну. Сюды ж пакладзіце 1 кг падрыхтаванага часнаку і заліце расолам (ён павінен пакрываць часнок з верхам). Слоік пакрыйце двайным слоем марлі, абвяжыце шпагатам і пакіньце пры 15—22°С. Праз 2—5 дзён маласольны часнок гатовы.

**ЦУД-ЧАСНОК МАРЫНАВАНЫ.** 3,5 кг часнаку пакладзіце ў эмаліраванае вядро (каструлю), заліце халоднай вадой, дадайце паўлітра 9-працэнтнага спіртавога натуральнага воцату. У кіслым асяроддзі часнок вытрымліваецца 30—40 сутак (за гэты час ён страчвае пякучасць). Затым воцатны раствор зліваюць, а часнок прамываюць халоднай вадой і заліваюць моцна салёнай і падсаладжанай (па смаку) халоднай вадой, дадаўшы 0,35 л яблычнага натуральнага 6-працэнтнага воцату. Калі яго няма, выкарыстайце 9-працэнтны спіртавы натуральны воцат (0,5 літра на вядро марынаду).

Затым на дробнай тарцы натрыце 0,5 кг сталовых буракоў. У іх дадайце 0,25 л. вады, перамяшайце і адцісніце сок у вядро праз марлю. Раствор набудзе рабінавы колер, афарбуе лупінку часнаку, надаўшы яму таварны выгляд. Праз 15 — 20 сутак часнок гатовы да ўжывання. Захоўваюць яго ў гэтым жа марынадзе, пажадана ў халаднаватым і цёмным месцы, таму што на святле вітамін С разбураецца. Трэба сачыць, каб ён не замёрз, інакш долькі часнаку стануць мяккімі і страцяць свой смак.

## ВЫ АТРЫМАЛІ САДОВЫ ЎЧАСТАК...

Вы атрымалі садовы ўчастак, і жыццё ваша стала больш напоўненым, клопатным. Хочацца і сад пасадзіць, і агарод, і ягаднікі. Карацей, мець ад зямлі найбольшую аддачу. Але з чаго пачаць? Мы раім не чакаць, пакуль вырасце сад ці пачнуць прыносіць ураджай ягадныя кусты, а адразу брацца за агародніну. Аб яе дабратворным уплыве на чалавека наша кансультацыя.

**НАВОШТА НАМ АГАРОДНІНА?**

Напэўна, патрэбна. Невыпадкова ж людзі зацікавіліся агароднінай са старажытных часоў і пачалі акультурваць разнастайныя дзікія расліны з харчовымі ўласцівасцямі. У Старажытным Егіпце ўжо ў III тысячагоддзі да нашай эры вырошчвалі цыбулю, моркву і бабовыя культуры, а ў Амерыцы больш 3—4 тысяч гадоў назад культывавалі гарбузы, памідоры, перац, бульбу і фасолю. У Расіі асноўнай агароднінай лічыліся бручка, капуста і рэпа, пазней — агуркі, цыбуля, часнок, а ўжо пры Пятры І даволі хутка стала галоўнай агароднінай у рацыёне расіян бульба. Чым жа карысная агародніна для чалавека? Самае галоўнае — яна паляпшае абмен рэчываў, дапамагае ў страваванні, засваенні бялкоў, тлушчаў, вугляводаў, рабоце сардэчна-сасудзістай, нервовай і эндакрыннай сістэм, схільных да разнастайных змяненняў з-за недахопу вітамінаў.

Менавіта вітаміны ў першую чаргу дае чалавеку агародніна. Напрыклад, вітамін С (аскарбінавая кіслата) — адзін з самых важных у харчаванні. Калі нашаму арганізму не хапае вітаміну С, то зніжаецца працаздольнасць, арганізм слаба супрацiўляецца таксічным рэчывам і іншым шкодным уплывам, экстрэмальным умовам, дрэнна працуе сэрца, слабей функцыяніруе печань і іншыя органы. Вы хутка стамляецеся, жыццёвы тонус зніжаецца, узнікае апатыя. Мала таго — можна нават цынгой захварэць! Ну і галоўнае, гэты цуд-вітамін у самых вялікіх дозах утрымліваецца ў рэпчатай цыбулі, ва ўсіх зяленіўных культурах, моркве, памідорах, гарбузах, рэдзьцы, рэпе, бураках, агурках, кабачках, бульбе, капусце.

Ёсць і іншыя вітаміны, і яны таксама ўвойдуць у лабірынты вашага арганізма разам з агароднінай. Вітамін Р добра дзейнічае на стан страўнікава-кішэчнага тракта, аказвае гаючае дзеянне пры захворванні вачэй, скуры, павышае трываласць капіляраў. Больш за ўсё гэтага вітаміну ў памідорах і перцы, розных відах капусты, бураках, шчаўі, моркве, бульбе. у зяляніне пятрушкі і сельдэрэю.

Вітамін В1 у адрозненне ад іншых не назапашваецца арганізмам, таму трэба пастаянна ўжываць у ежу тую агародніну, дзе ён утрымліваецца. Ён проста неабходны арганізму пры расшчапленні і засваенні вугляводаў. Добра ўздзейнічае ён і на нервовую сістэму. Так што вы значна лепш адчуеце сябе, калі часцей будзеце ўжываць у ежу зялёны гарошак, памідоры, шчаўе, бульбу, цыбулю, моркву, цвятную капусту, перац, фасоль.

А вось бялок і тлушч лепш сінтэзуюцца пры наяўнасці ў ежы вітаміну В2. Ён таксама палепшыць ваш зрок і працэс крыватварэння. Пры яго недахопе вы раптам адчуеце страту апетыту, галаўны боль. І калі раптам такое здарыцца, тэрмінова ўключыце ў свой рацыён агародніну, якую мы пералічылі, апісваючы карысныя ўласцівасці папярэдняга вітаміну.

Недахоп вітаміну РР (нікацінавай кіслаты) можа выклікаць авітаміноз, слабасць, ташнату, аслабленне памяці. Прымяняюць нікацінавую кіслату пры захворванні атэрасклерозам, цукровым дыябетам. Больш за ўсё вітаміну РР утрымліваецца ў сельдэрэі, моркве, памідорах, рэпе, бураках, перцы.

Вітамін В6 зробіць вас больш устойлівымі да інфекцыйных захворванняў. Папаўненню яго запасаў у вашым арганізме дапамогуць бульба, капуста, морква, памідоры.

Карацін (вітамін А) утрымліваецца ў моркве, перцы, памідорах, лісці шпінату, салату, у пятрушцы, сельдэрэі, цыбулі, гарбузах. Гэты вітамін паляпшае рост маладога арганізма, неабходны для падтрымання добрага зроку, паляпшае абмен рэчываў. Цікава, што вітамін А арганізм чалавека здольны адкладваць у запас.

І гэта яшчэ не ўсё. Ёсць жа і вітамін Н (зялёны гарошак, капуста, буракі, морква, бульба, памідоры), і вітамін В9 (салат, пятрушка, шпінат, цыбуля, бабы), і вітамін Е (салат, зялёны гарошак, сельдэрэй, морква, шпінат, бабы), і вітамін К (цвятная капуста, зялёны гарошак, морква, шпінат, памідоры, бульба).

Акрамя вітамінаў, у агародніне ўтрымліваюцца карысныя мінеральныя солі і арганічныя кіслоты. Калій — у рэдзьцы, моркве, памідорах, бураках, шпінаце, гарбузах, капусце. Магній — у бураках, капусце кальрабі. Жалеза — у шпінаце, качанным салаце, памідорах. Кальцый — у многай агародніне, гэтак жа, як і медзь, нікель, кобальт, марганец, фтор, ёд, яблычная, лімонная і шчаўевая кіслоты.

Адным словам, без агародніны не пражывеш, а калі вы яе вырасціце самі, то і запас вітамінаў зможаце значна павялічыць. Ну, а каб самім вырасціць, трэба і папрацаваць. Бо і агародніне ад вас трэба тое-сёе атрымаць. Працэс — двухбаковы. Што ж агародніне патрэбна ад вас, мы раскажам у наступным выпуску "Ваш сад — агарод".

## УЗЕЛКИ НА ПАМЯТЬ

Что такое репчатый лук, видимо, рассказывать не нужно. А вот о других видах лука и как их выращивать мы вам расскажем.

**ЛУК БАТУН.** Многолетнее сильноветвящееся растение. Ценен значительным содержанием в листьях витамина С. Ранней весной быстро отрастает и дает раннюю зелень (особенно под пленочными укрытиями). Требует хорошо обработанной и удобренной почвы. Зимостоек, его можно выращивать повсеместно. На одном месте может расти до 5 лет. При однолетней культуре семена высевают в два срока: ранней весной — для получения урожая в июле, и в первой половине лета — для получения урожая зеленого лука в начале следующего года.

**ШНИТТ-ЛУК.** Многолетний лук с нежными трубчатыми листьями светлой и темно-зеленой окраски. Ценится за высокое содержание витамина С и как глистогонное средство. Исключительно холодостоек, может выращиваться повсеместно. На одном месте растет да 5 лет, но качество продукции на 4 -- 5 году резко снижается из-за измельчения листьев и большого количества стрелок. Семена высевают рано весной или в первую половину лета и даже под зиму. Для выгонки зеленого лука и в защищенном грунте кусты выкапывают с осени и хранят под навесом.

**ЛУК-ШАЛОТ.** Разновидность репчатого лука, основное его отличие — сильное ветвление. В гнезде образуется от 10 — 12 до 20 — 30 луковиц. Дает тонкие, более нежные, чем у репчатого лука листья и скороспелые. Размножают шалот вегетативно, делением гнезда на отдельные луковицы. Чтобы луковицы не измельчали, один раз в 5 -- 10 лет его выращивают из семян.

**ЛУК ПОРЕЙ.** Многолетнее травянистое растение. Культуру ведут в течение двух лет. В первый год образует ланцетовидные листья длиной 40 — 60 см и ложную луковицу, переходящую в ложный стебель, высотой 10 — 80 см. На второй год растения стрелкуются, в последующие годы лук растет за счет образовавшихся в предыдущие годы околострелочных луковиц. Имеет нежный, слабоострый вкус и является диетическим продуктом. Повышает аппетит, улучшает пищеварение, деятельность желудочного пузыря и печени. Питательная ценность довольно высока. Выращивают из рассады и посевом семян в грунт. В грунт рассаду высаживают в возрасте 50 — 60 дней в конце апреля — начале мая. Семена высевают в два срока — ранней весной и летом (в июле — августе).

**ЛУК СЛИЗУН.** Многолетнее растение, имеет плоские светло- и темно-зеленые листья длиной до 40 см и шириной 2 — 3 см. Этот лук относится к салатным, отличается меньшей остротой вкуса, чем репчатый. Богат витаминами и полезными для человека солями, особенно железом. Лук слизун отличается ранним отрастанием пера. За сезон лук срезают до пяти раз. Размножают посевом семян в грунт, а также рассадой и делением куста. Выращивают на одном месте до пяти лет.

# ЯК ВЫЛЕЧЫЦЬ НАШУ АХОВУ ЗДАРОЎЯ?

Тры дні знаходзілася на Віцебшчыне прадстаўнічая дэлегацыя Міністэрства аховы здароўя Беларусі, у саставе якой былі міністр В.С.Казакоў, першы намеснік міністра М.І.Сцепаненка, намеснік міністра, галоўны санітарны ўрач рэспублікі В.П.Філонаў.

Візіт медыцынскіх кіраўнікоў быў вельмі насычаны. Яны стараліся дэталёва азнаёміцца са станам аховы здароўя вобласці і горада Віцебска: наведалі Лепельскую і Бешанковіцкую цэнтральныя раённыя бальніцы, абласную клінічную бальніцу, анкалагічны дыспансер, медсанчасць тэлевізійнага завода, абласны туберкулёзны дыспансер, інфекцыйную бальніцу, урачэбную амбулаторыю ў пасёлку Тарны. Вялася шчырая размова аб сённяшнім незайздросным становішчы ў нашай ахове здароўя, у фармацыі, аб шляхах выхаду з той тупіковай сітуацыі, да якой мы непазбежна набліжаемся.

Здароўе народа Беларусі імкліва падае, сярэдняя працягласць жыцця зніжаецца і сёння складае 70,5 года. На тысячу жыхароў прыходзіцца 11,3 народжаных. Гэта самы нізкі паказчык нараджальнасці ў рэспубліцы. Расце агульная смяротнасць, захворванні туберкулёзам, венерычнымі і інфекцыйнымі хваробамі, эндакрыннай паталогіі. У многіх рэгіёнах рэспублікі назіраюцца масавыя выпадкі харчовых атручванняў, пагаршаецца харчаванне людзей, асабліва пажылых і дзяцей. Забруджанасць значнай тэрыторыі рэспублікі радыенуклідамі ў выніку чарнобыльскай аварыі толькі яшчэ больш пагаршае вышэйназваную медыка-сацыяльную сітуацыю. Зніжае здароўе нацыі і пастаяннае псіха-эмацыянальнае напружанне ў выніку эканамічнага бязладдзя.

Цяжка, вельмі цяжка працаваць у сённяшніх умовах нашым медыкам: не хапае грошай на медыкаменты, абсталяванне, перавязачныя матэрыялы і яшчэ шмат на што. Наша ахова здароўя таксама хварэе, і яе таксама трэба неадкладна лячыць.

На жаль, ні адзін з кіраўнікоў нашага дэпартамента медыцыны не даў наконт гэтага яснага плана лячэння. І перш за ўсё па аб'ектыўных прычынах. Меркуйце самі: у 1993 годзе бюджэт Міністэрства аховы здароўя складаў 7,6 працэнта ад долі агульнага нацыянальнага даходу, але з прычыны пастаяннай інфляцыі за 9 месяцаў раўняўся ўжо 4,3 працэнта, гэта значыць, стаў амаль удвая менш. На 1994 год плануецца лічба 4,3 працэнта. Такім чынам, бюджэт аховы здароўя значна паменшыўся. Таму, па словах міністра, у будучым годзе прыйдзецца вырашаць толькі кардынальныя медыцынскія праблемы, у прыватнасці, ахову мацярынства і дзяцінства, а таксама здароўе насельніцтва, нараджальнасць, смяротнасць і г.д.

У цяжкім становішчы знаходзіцца медыцынская навука. Яе праблемы, шляхі выйсця плануецца абмеркаваць ва ўрадзе Беларусі. Плануецца стварэнне Акадэміі медыцынскіх навук Беларусі. Далей патрэбна прыняць як мага хутчэй цэлы кодэкс законаў аб ахове здароўя. Пакуль жа Вярхоўны Савет прыняў толькі два, ды і тыя яшчэ не запрацавалі на поўную сілу.

Кіраўнікі міністэрства сустрэліся таксама з супрацоўнікамі і студэнтамі медыцынскага інстытута і медвучылішча ў Віцебску.

У аблвыканкоме пытанні аховы здароўя курыруе намеснік старшыні У.А.Цацоха. У сваіх выступленнях ён падкрэсліваў, што амаль 35 працэнтаў усяго бюджэту вобласці ідзе на патрэбы аховы здароўя. Кіраўніцтва вобласці робіць усё для таго, каб ахова здароўя на Віцебшчыне магла трымацца на плаве. Таму не плануецца ні скарачэння бальнічных ложкаў, ні медыцынскіх кадраў.

Канечне ж, былі на гэтых сустрэчах і пазітыўныя, радасныя моманты. Сталічныя госці разам з кіраўніцтвам упраўлення аховы здароўя вобласці і аблвыканкома прысутнічалі на адкрыцці хірургічнага корпуса абласной клінічнай дзіцячай бальніцы, наведалі аб'екты будоўлі: радзільны дом, абласную стаматалагічную паліклініку, абласны дыягнастычны цэнтр. Прынялі ўдзел ва ўрачыстым сходзе, прысвечаным 60-гадоваму юбілею санітарнай службы Віцебска.

Тэма рабочай сустрэчы кіраўнікоў міністэрства з працоўнымі калектывамі медыцынскіх работнікаў вобласці насіла канкрэтную назву: "Аб прапагандзе асноўных напрамкаў і дзеянняў па выхаду Рэспублікі Беларусь з крызіснай сацыяльна-эканамічнай сітуацыі і паскарэнню рыначных рэформ". Несумненна адно: кіраўнікі міністэрства сваімі вачыма яшчэ раз пабачылі стан лячэбна-прафілактычнай дапамогі насельніцтву вобласці, ацанілі дзейнасць медыкаў і фармацэўтаў, а, значыць, ім стала больш бачна, чым і як дапамагчы ім. З другога боку, медыкі вобласці і горада пераканаліся, што іх праблемы добра вядомы там, наверсе, і нешта робіцца і будзе далей рабіцца для паляпшэння ўмоў працы. Добра, што сярод усіх слаёў медыкаў і іх кіраўніцтва пакуль існуе такая думка: наша ахова здароўя павінна быць дзяржаўнай і бясплатнай. Гэта ніколькі не выключае іншыя формы, напрыклад, медыцынскае страхаванне, платныя паслугі, але ўсе яны павінны быць дадаткам да дзяржаўнай, бясплатнай лячэбнай дапамогі.

Л.ЦІТОЎ,
дацэнт Віцебскага медінстытута.



Зімовы дзень

Мал. А. ДАРАГАКУПЦА.




Сёння мы адкрываем у газеце новы раздзел з простай і даверлівай назвай — "Між намі, рыбаловамі". Матэрыялы, якія будуць тут друкавацца, адрасаваны і таму, хто ўпершыню з вудачкай у руках збіраецца пайсці на вадаём, і вопытнаму аматару.

Спадзяёмся, што сваімі "сакрэтамі", назіраннямі падзеляцца і больш вопытныя рыбаловы. Мяркуем таксама друкаваць кароткія цікавыя гісторыі з рыбалоўнай практыкі.

## Усё пачынаецца з азбукі

Рыба бачыць вудзільшчыка на чыстым лёдзе з глыбіні 3 —4 м і адыходзіць ад падазронага месца. Асабліва асцярожныя вялікія асобіны. Гэтага не здарыцца, калі лёд ля лунак зацяміць трыснягом або лапкамі елкі, сасны. У мароз ля лунак можна парасплёскваць ваду. Замярзаючы, яна стварае малапразрысты слой.

Буйная рыба судак, шчупакі часцей трымаюцца ў глыбокіх месцах. Лавіць іх трэба на вялікія блешні. Але, бадай, найбольшая цяжкасць для рыбалова-спартсмена — знайсці гэтых драпежнікаў. Па першаму льду яны могуць быць і на скосах глыбокіх ям, і на водмелях, дзе плавае дробная рыбка. Паблізу стаянак драбязы і трэба шукаць шчупакоў. Тут жа можа быць буйны акунь.

Сярэдні акунь бярэ на дробныя блешні на неглыбокіх месцах ля карчажын і затанулых траў. Клёў лепшы з падсадкай на кручок чарвяка, матыля або вока акуня.

На неглыбокіх месцах і каля затанулых траў на мармышку з падсадкай матыля ў гэту пару ловяцца плоткі, сярэдні і дробны акунь, паплавочнымі вудачкамі — амаль усе віды рыб, на жэрліцы бярэ шчупак, іншы раз — акунь, судак.

На ноч мэтазгодна расставіць донныя вудачкі з нажыўкай ярша або плоткі. Можа папасціся добры налім. Бярэ ён таксама на курыныя кішкі і кавалачкі сала.

Пасля ледаставу рыба ловіцца цэлы дзень. Але найбольш паспяхова — у параўнальна цёплае, пахмурнае і ціхае надвор'е.

## Дапаможа павадок

Вы ловіце на вялікай глыбіні або на цячэнні. Тут маленькая мармышка не прыгода, хоць на яе якраз і лепшы клёў. Як быць? Трэба да лескі вышэй мармышкі прыкладна на 15 — 20 см прывязаць павадок даўжынёй каля метра са свінцовым грузікам (шрацінай) на канцы. Цяпер, калі апускаеце леску ў ваду, грузік цягне яе значна хутчэй, чым маленькая мармышка. А калі грузік дасягае дна (аб гэтым прасігналіць ківок), можна рыбачыць, памятаючы пры гэтым, што ківок будзе рэагаваць на паклёўкі толькі ў межах даўжыні павадка. Гэты спосаб эфектыўны як зімой, так і летам.

## Карысныя парады

Можна вельмі доўга захаваць жывым падрыхтаванага да рыбалкі матыля. Для гэтага яго трэба прамыць, ачысціць ад смецця, даць сцячы вадзе, а лічынкі перасыпаць крухмалам. Раскладўшы нажыўку на порцыі, змясціце яе ў карабкі ад запалак. Загарніце кожную ў поліэтыленавы пакет і пакладзіце ў маразільную камеру халадзільніка. На рыбалцы дастаткова ўзяць такога матыля і адагрэць дыханнем. Лічынкі ажываюць і становяцца прыгоднымі для насадкі.

# ГАЛОЎНЫЯ МАТЧЫ НЕ ЗГУЛЯНЫ...

## Пасляслоўе да футбольнага сезона 1993 года

Вясенне-асенні футбольны сезон сёлетняга года адыходзіць у гісторыю. Спецыялісты футбола, ігракі, журналісты стараюцца аб'ектыўна разабрацца ў плюсах і мінусах мінулага чэмпіянату Беларусі ва ўсіх трох лігах. Як вядома, закончыліся гульні толькі першага круга. З якімі ж здабыткамі падышлі да гэтага прамежкавага фінішу футбалісты Віцебшчыны?

У першай лізе ў ліку лідэраў замацаваўся "КІМ": ён займае трэцяе месца, прапусціўшы наперад сталічныя "Дынама" і "Дынама-93". Вось лічбавыя выкладкі кімаўцаў: у 15 сустрэчах атрымана 10 перамог, тры разы віцябчане згулялі ўнічыю, двойчы прайгралі. Набрана 23 ачкі, забіта і прапушчана мячоў адпаведна 19:7. Паказчыкі, як бачыце, нядрэнныя.

Амаль усе спецыялісты нашага футбола ў сваіх аглядах адзначылі адну прыемную дэталь — стабільнасць складу віцебскай каманды. Хто ж вынес асноўны футбольны цяжар на сваіх плячах? Галкіпер Віталь Варывончык згуляў матчаў удвая больш, чым яго напарнік Ігар Патапаў. Абодва варатары стаялі досыць стабільна, амаль не дапускаючы грубых памылак. У абароне надзейную гульню дэманстравалі перш за ўсё цэнтральныя абаронцы Юрый Канаплёў і Віктар Бязмен, у шэрагу матчаў выдзяляліся Андрэй Васільеў, Эдуард Балтрушэвіч, Васіль Дзятлаў. Унушальна выглядала кімаўская паўабарона ў асобе Эдуарда Дземенкаўца, Антуана Маёрава, Сяргея Куланіна, Алега Варапаева. Некалькі гульняў цікава правёў Вадзім Карцаў. Неяк у цені застаўся вопытны Сяргей Чарнышоў, які рэдка выходзіў у асноўным складзе.

Лінія нападу была прадстаўлена тараным Сяргеем Вехцевым і ўсюдысным Ігарам Фраловым. Дарэчы, па падліках штотыднёвіка "Футбол Беларусі" аказаўся аўтарам самых каштоўных галоў і ў сваёй камандзе, і наогул ва ўсіх камандах першай лігі: ён тройчы адкрываў лік і па аднаму разу зраўноўваў яго ў гульні, а таксама выводзіў "КІМ" наперад. Абодвум нашым форвардам няблага падыгрываў выходзячы на замену хуткі Міхаіл Пацко.

На жаль, стабільнасць складу каманды мае і адмоўныя рысы: слаба ўводзіліся маладыя ігракі (я маю на ўвазе Аляксандра Храпскага, Міхаіла Ладзіка, Вячаслава Бялея, Віталя Ціхаміравa). З гэтай праблемай "КІМ" можа сутыкнуцца ўшчыльную ўжо ў пачатку другога круга: з каманды падаліся ў мінскае "Дынама" шукаць лепшай долі і большых грошай Эдуард Дземенкавец і Антуан Маёраў. Мінчанам прыглянуўся яшчэ і Сяргей Вехцеў, але ў таго яшчэ існуе кантракт з "КІМам". Што ж, дарагія балельшчыкі, такія цяпер часы, калі галоўным стымулам сталі грошы, калі спартсмены (і не толькі футбалісты) прадаюцца і купляюцца разам і па аднаму, стаўшы сапраўднымі рабамі канца XX стагоддзя. Будзем спадзявацца, што кімаўскі карабель пасля дзвюх адувальных прабоін у барацьбе застанецца на плаве і не пойдзе на дно, гэта значыць, не саслізне ўніз турнірнай табліцы будучай вясной.

Больш складанае становішча ў "Лакаматыва". Пасля першага круга ён па-ранейшаму знаходзіцца ў небяспечнай зоне, застаючыся кандыдатам на "вылет" з першай лігі. У канцы сезона ў камандзе змяніўся трэнер (замест В.Раўкова — В.Шуганаў), выбыла і прыбыло нямала ігракоў. Сёння ўжо ў Чэхіі стаіць у варотах Любчанка, туды ж сабраўся і Навумаў, у магілёўскім "Тарпеда" аб'явіўся Яснінскі, сёй-той таксама збіраецца шукаць спартыўнага шчасця на палях блізкага ці далёкага замежжа.

У другой лізе доўгі час кандыдатам у лідэры лічыўся віцебскі "Будаўнік", але з каманды разам з трэнерам В.Шуганавым пайшло нямала ігракоў, каманда пачала гуляць горш, у выніку — сёмае месца. На адзінаццатым радку турнірнай табліцы ў гэтай лізе застаўся фарм-клуб кімаўцаў каманда "КІМ-2". Дзіўна, але "КІМ" даваў сваёй дачэрняй камандзе многа вопытных ігракоў, і ніводзін малады футбаліст не замацаваўся ў радах "КІМа". Што ж, будзем чакаць адваротнай сітуацыі.

У трэцяй лізе наперадзе барысаўская "Бярэзіна", але ёй на пяты наступаюць нашы каманды — наваполацкі "Нафтан" (2-е месца) і аршанскі "Легмаш" (5-е месца). Радуюць сваёй гульнёй у юнацкім першынстве Беларусі на прыз "Крыштальны мяч" футбалісты віцебскай каманды "КІМ-ВАР", якія пасля першага круга з 16 ачкамі знаходзяцца на 3-м месцы сярод 12 каманд. Відаць, дае плён адкрыццё аддзялення футбола ў нашым вучылішчы алімпійскага рэзерву. Вось толькі б не разгубіць таленавітую моладзь на шляху да нашага дарослага футбола!

Многа думак сёння існуе наконт становішча ў першай лізе беларускага футбола. Пераважае такое меркаванне: скараціць лігу да 12—14 каманд, каб мацнейшыя калектывы часцей сустракаліся між сабой, павялічыць абмен паміж лігамі.

На мой погляд, скарачэнне колькасці каманд не дасць нічога пазітыўнага нашаму футболу. Каманды перастануць выступаць у мацнейшай лізе (яны наогул могуць распасціся!), мноства балельшчыкаў пазбавяцца магчымасці глядзець футбольныя матчы. У многіх краінах Еўропы існуе такая сістэма, за якую сёння давюма рукамі А.Ягораў, Б.Тасман, У.Навіцкі, Л.Румбуціс і іншыя аўтары вышэйназванай рэформы. А ці палепшыўся агульны стан футбола ад такой сістэмы ў Албаніі, на Кіпры, Мальце, у тых жа краінах Прыбалтыкі? Не! Вось павелічэнне колькасці каманд, якія пераходзяць з ніжэйшай лігі ў вышэйшую, можа даць пазітыўны момант: абвастрыцца канкурэнцыя за месцы, што патрабуе лепшых адносін да гульні з боку трэнераў, ігракоў і г.д. І, нарэшце, ніхто не бярэ пад ўвагу наступнае: пры любой колькасці каманд заўсёды будуць лідэры, і аўтсайдэры, бо ўжо такая сутнасць любога віду спорту! Вельмі добрую рацыю мае П.Якубовіч з "Народнай газеты", які піша, што ўзмацняць футбол трэба і за кошт паляпшэння футбольнай гаспадаркі: стадыёнаў, футбольных палёў і г.д. А тут, у рэспубліцы, ды ў нашай вобласці амаль нічога не робіцца.

А.ЦІТОЎ.

◆ *СЛУЖБА 01 ПАВЕДАМЛЯЕ*

## Чарка з цыгарэтай — нашы ворагі

Пачнём з інфармацыі да роздуму. У 1989 годзе ў рэспубліцы адбылося 6230 пажараў. Урон, нанесены агнём, склаў 14,6 мільёна рублёў. Стыхія не была літасцівай і да людзей — загінула 460 чалавек. За 11 месяцаў бягучага года адбылося 15037 пажараў з уронам больш за 9,5 мільярда рублёў. У агні загінула 520 чалавек.

У нашай вобласці за 11 месяцаў гэтага года адбылося 2029 пажараў, нанесены ўрон склаў больш за 2 мільярды рублёў, у агні загінулі 95 чалавек. А колькі абгарэлых, скалечаных? Агнём знішчана 790 пабудоў, 272 галавы жывёлы, 1624 тоны кармоў, 51 адзінка тэхнікі. Статыстыка, прама скажам, трагічная. Пагадзіцеся: крыўдна, калі ў мірны час чалавек атрымлівае калецтва, на ўсё жыццё становіцца інвалідам. Яшчэ больш горка, калі ён гіне.

Адной з галоўных прычын, якая садзейнічае ўзнікненню пажараў з трагічнымі вынікамі, з'яўляецца п'янства. У гэтым годзе, напрыклад, па віне людзей, якія знаходзіліся ў нецвярозым стане, у вобласці адбылося 170 пажараў. Страты ад іх склалі 281,5 мільёна рублёў. Знішчана агнём 113 будынкаў. З 95 чалавек, якія загінулі ад пажараў — 54 знаходзіліся ў нецвярозым стане і, як правіла, у асноўным з непатушанай цыгарэтай.

Вось некаторыя прыклады.

З выпадку ад'езду жонкі ў вёску аршанец А.Дзедукоў запрасіў да сябе дамоў незнаёмца. П'янка працягвалася два дні. Калі вярнулася жонка, госць быў выстаўлены з кватэры дома на лесвічную пляцоўку, дзе закурыў, а патушыць запалку не хапіла сіл, і на ім загарэлася адзенне. Лічаныя секунды — і на лесвічнай пляцоўцы быў абгарэлы труп.

Курэнне ў нецвярозым стане амаль заўсёды дае сумныя вынікі. З гэтай нагоды ў вёсцы Карпекі Полацкага раёна згарэў дом, маёмасць і сам гаспадар П.Пузукоў. Такі ж лёс і з той жа прычыны напаткаў Г.Мільнова з Полацка, П.Шкуціна з Віцебска, Н.Хамёнка з вёскі Дабрэйка Віцебскага раёна, Л.Забалотнікава з Шуміліна...

Няма сэнсу далей працягваць спіс. Упэўнены: каб папярэдзіць пажар і пазбегнуць трагедыі, не патрабуецца нейкіх затрат. Трэба ўзяць сабе за правіла: ні пры якіх умовах не класціся ў пасцель з цыгарэтай. Чарка з цыгарэтай — нашы ворагі.

В.ПРЫШЧЭПАЎ,
спецыяліст упраўлення ваенізаванай пажарнай службы.

# ЗАГАДКІ ЗНАКАЎ ЗАДЫЯКА

Блакітныя зоркі, вежа, лесвіца, цыркон, нарцыс, а таксама лічбы 3, 5, 9, 14, тапаз, аметыст, гранат і рубін — вось некаторыя сімвалы і талісманы другой паловы снежня. Пачне кіраваць ёю Сатурн, ствараючы штучныя праблемы, тупіковыя сітуацыі, штосьці разбураючы, а потым, спахапіўшыся, ствараючы нешта новае. Апошняя дэкада будзе пад рукою Юпітэра, даваляючы нам адчуць, што перабудоўшчыкі разбурылі яшчэ не ўсё, і з жабрацкага быту і духоўнай пустэчы большасць людзей знойдзе выхад.

Каляндар-штодзённік уяўляецца такім:

**16 снежня.** Перавага індывідуальнай працы. Дзень спрыяльны для поспехаў, хаця верагоднасць траўмаў значная. Блізнятам — наўдача.

**17 снежня.** Фінансавыя поспехі. Нованароджаным — асаблівую ўвагу. Рыбам пашанцуе, Авену — не.

**18 снежня.** Дзень садзейнічае перамогам. Магчымасць нараджэння здольнага экстрасенса. Дасягненні ў Шаляў і Казярогаў, Блізняты праявяць няўпэўненасць, а Льву не пашанцуе.

**19 снежня.** Спланаваныя справы здзейсняцца. Магчымасць правакацый. Прыбытак Льву, Авену і Блізнятам.

**20 снежня.** Непрадказальнасць пачатых спраў. Лячэнне голадам. Пашанцуе Цяльцу і Раку.

**21 снежня.** Набываеце добрых сяброў. Прафілактыка стэнакардыі, больш спагады да людзей. Рак аддаецца пачуццям, у Скарпіёна перамогі, а Цяльцу не пашанцуе.

**22 снежня.** Дамашнія справы, пачатак будаўніцтва, роздум пра далёкіх продкаў. Стральцу перанесці нягоды.

**23 снежня.** Разумная рызыка, асабліва ў дарозе. Галаданне.

**24 снежня.** Не спадзявайцеся на "авось пранясе", неператамляйце сэрца. Рыбам пашанцуе, Леў драматызуе падзеі, хаця сапраўдныя непрыемнасці ў Скарпіёна і Дзевы.

**25 снежня.** Выдатны дзень. Верагоднасць нараджэння экстрасенса і астролага. Вадалей — пераможца, Авен, Рак, Леў у роспачы.

**26 снежня.** Пачатак спраў, асабліва фінансавых. Грамадская нервознасць, паражэнні ў ваенных справах. Вадалею не пашанцуе.

**27 снежня.** Дзень поспехаў і канфліктаў. У Дзевы дэнны настрой.

**28 снежня.** Канкрэтная справа ўдаецца, толькі прытрымлівацца меры ва ўсім. Поспехі ў Авена, няўдачы ў Шаляў.

**29 снежня.** Пачатае і задуманае можа павярнуцца потым заваротным бокам. Траўмы. У Рыб паражэнне, Шалі ідуць на кампраміс.

**30 снежня.** Поспехі ў калектыўнай працы. Супрацьстаяць спакусам. Правалы ў Казярога і Блізнятаў.

**31 снежня.** Пасяхова ідуць дамашнія справы. А наогул — дзень складаны ў псіхалагічных адносінах. Асабліва Скарпіён адчувае перапады настрою. Трымайцеся! Заўтра Новы год!

Шчасця ўсім і поспехаў!

Барыс БЕЛЯЖЭНКА.

# КРАСВОРД

Склала М.АРЦЁМАВА.



**Па гарызанталі:** 5. Клёцкі, начыненыя мясным або іншым фаршам. 6. Вострая прыправа да стравы. 8. Афіцыйна-ўстаноўленая сума збораў, аплаты за што-небудзь. 9. Нотны знак. 10. Спартсмен, які займае апошняе месца ў спаборніцтвах. 14. Вялікая дарожная карэта. 17. Частка параднай формы некаторых кавалерыйскіх палкоў у заходнееўрапейскіх і рускай арміях. 18. Старадаўні народны вандроўны тэатр. 19. Вялікі марскі рак атрада дзесяціногіх. 20. Неабрэзаны край дошкі. 22. Магутны пракатны абціскны стан. 25. Стабільная элементарная часцінка рэчыва з дадатным электрычным зарадам, якая ў спалучэнні з электронам утварае атам. 26. Герой беларускіх казак, легенд. 30. Жаночыя ўпрыгожанні, зробленыя з каштоўных камянёў і металаў. 32. Сываратка лімфы ці крыві. 33. Марская рыба сямейства корушак. 34. Бетанаваны памост на верфі для зборкі, рамонту і спуску суднаў на ваду. 35. Саматканая паласатая або клятчастая спадніца.

**Па вертыкалі:** 1. Старадаўняя руская манета. 2. Дробная марская рыба сямейства, блізкага да селядцоў. 3. Вакальна-інструментальны ансамбль з Санкт-Пецярбурга. 4. Чорны або шэры глiністы сланец. 5. Горная парода. 7. У вершаскладанні — трохскладовая стапа з націскам на апошнім складзе. 11. Дэкаратыўнае збудаванне ў выглядзе варот. 12. Прыбор для вызначэння тлустасці малака па ступені яго празрыстасці. 13. Свет малых велічынь-атамаў электронаў і г.д. 15. Марская прамысловая рыба. 16. Прыродныя зоны трапічных стэпаў, размешчаныя абапал экватара. 21. Заменнік скуры, тканіна з каўчуковым пакрыццём. 23. Стужка з марлі для перавязкі ран. 24. Месяц года. 27. Электрычна зараджаная калаідальная часцінка. 28. Алей, які здабываецца з насення клешчавіны. 29. Птушка сямейства фазанавых. 31. Ядавітая змяя сямейства аспідавых.

## АДКАЗЫ

### на красворд, надрукаваны ў нумары за 11 снежня.

**Па гарызанталі:** 7. Сікафант. 8. Трамплін. 9. Панарама. 11. Экстракт. 12. Аспект. 13. Каруза. 15. Акацыя. 17. Каракульча. 18. Пнеўматыка. 21. Квазар. 23. Статар. 25. Акольш. 27. Крэатура. 28. Якабінец. 29. Рэпартаж. 30. Танзіліт.

**Па вертыкалі:** 1. Кілават. 2. Какаду. 3. Гнома. 4. Тракт. 5. Спарта. 6. Бісквіт. 10. Астранаўтыка. 11. Эксплантацыя. 14. Заклёпка. 16. Квадрант. 19. Квартэт. 20. Малевіч. 22. Званар. 24. Алівін. 25. Аркан. 26. Шквал.



◆ *ФОТА НА ПАМЯЦЬ*

# Перспектывы «Гарызонта»

Зіма на вуліцы... У майстроў футбола — перадышка. А вось у тых, хто, магчыма, прыйдзе ім на змену, спаборніцтвы не заціхаюць. Натуральна, з зялёнага газона юныя футбалісты перамясціліся пад дах. Прытулак яны знайшлі ў спартыўнай зале Віцебскага СПТВ-57.

Кожныя выхадныя дні дзякуючы кіраўніцтву вучылішча і старанням трэнера з акцыянернага таварыства "Гарызонт" майстра спорту У.М.Сцепанюка, які працуе на грамадскіх пачатках, тут праходзяць турніры юных футбалістаў горада. У апошнім, напрыклад, удзельнічалі каманды "Гарызонта", 31-й і 33-й сярэдніх школ, мікрараёнаў Віцебска.

Перамогу атрымалі хлопцы з каманды "Гарызонт", якіх вы бачыце на здымку. Лепшымі ігракамі прызнаны Коля Андрончык, Дзіма Гольнеў, Жэня Словас, Дзіма Паканаў. На думку трэнера У.М.Сцепанюка, у рабят з "Гарызонта" добрыя перспектывы.

В.МАРОЗАЎ.

◆ *НАВІНЫ ГАНДЛЮ*

## «Тон», «Альфа» і «Рамонак»

Толькі месяц працуе магазін пры абласной аптовай базе "Культгандаль". Многія віцябляне ўжо набылі тут патрэбныя рэчы. За гэты час рэалізавана тавараў на 340 мільёнаў рублёў. Увага, з якой сустракаюць прадаўцы патэнцыяльных пакупнікоў, робіць сваю справу: амаль усе пакідаюць магазін з пакупкай. Пастаянная падсартоўка з базы выключае пустыя паліцы. Тавар заўсёды ў наяўнасці.

Дружны калектыў магазіна запрашае віцяблян і гасцей горада набыць ёлачныя цацкі і навагоднія ўпрыгожанні, маладых бацькоў — дзіцячыя каляскі, аўтааматараў — прычэпы да легкавушак "Тон". Толькі што атрымалі навінку з Кішынёва — чорна-белыя тэлевізары (кубік) "Альфа". Добры навагодні падарунак — гадзіннік — таксама можна купіць тут. І яшчэ адна навінка — пішучыя машынкі "Ятрань" (975 тыс. руб.) і "Рамонак" (650 тыс. руб.). Кіраўніцтва базы "Культгандаль" можа прадаць іх па безнаяўным разліку. Варта толькі дамовіцца па тэлефоне 4-74-64.

Удалых вам перадnavагодніх пакупак!

Т.КУЗЬМІЧ.

◆ *ГУЛЯЕМ З ГРОСМАЙСТРАМ*

## Размены, размены...

### Міжнародны гросмайстар А.Кавалёў — чытачы «Віцебскага рабочага»

*Іспанская партыя*

1. e4 e5 2. Kf3 Kc6 3. Cb 5f 5 4. C:c6 dc 5.Kc3 Cd6 6.d4 Фe7 7.0-0f 4 8.Kf 3:e5...

„Зірніце, сябры, на прыведзеную пазіцыю. Белыя яшчэ не штурмуюць непрыяцельскага караля, але падступаюцца да яго. Яны пачынаюць серыю разменаў узяццем цэнтральнай пешкі e5. Конь наш пад боем. Чым біць яго? Ці мо лепей рыхтаваць для караля ракіроўку? Трэба думаць.



ход чорных

Сёмы ход чорным даўся складана. Былі прапановы ахвяраваць цэнтральную пешку, развіваць каня, слана. А Віктар Бондараў, вучань Мазалаўскай СШ Віцебскага раёна наогул мацнейшы працяг убачыў у ходзе пешкі e7—e5(?) і сказаў, што "песенька чорных неўзабаве будзе спетая".

Праўда, большасць чытачоў настроены працягваць барацьбу. Інспектар Дубровенскага раёна Віктар Смірноў параіў чорным згуляць f4 з шанцам на абарону. Гэты ход назвалі таксама В.Астапаў (Віцебск), К.Калінічэнка (Орша), М.Галкоўскі (г.п.Бешанковічы), іншыя чытачы. Ён, зрэшты, і зроблены.

Вядомы ў вобласці шахматыст, кандыдат у майстры спорту Уладзімір Лаўрык (гутарку з ім "Віцебскі рабочы" надрукуе ў адным з бліжэйшых нумароў. — Рэд.) да гульні не падключаўся, але пазіцыю ацаніў як няпростую для чорных. Ёсць іншыя меркаванні, партыя працягваецца. Дык б'ём каня ці не? Свой ход паведамляйце, як заўсёды, па тэлефоне 37-31-34.

М.ПРЫГОЖЫ.


*Заснавальнік — працоўны калектыў рэдакцыі*

*Галоўны рэдактар У. Р. СКАПА*





210601, ГСП, г. Віцебск, вул. Гогаля, 17





прыёмная рэдактара—37-34-40, намеснік рэдактара—37-06-89, камерцыйны дырэктар—37-33-06, сакратарыят—37-02-11, 37-45-63, аддзел пісьмаў і сувязей з чытачамі—37-30-43, служба навін—37-31-56, агляднікі: па пытаннях работы Саветаў народных дэпутатаў—37-01-45, па пытаннях грамадска-палітычнага жыцця—37-31-56, па пытаннях культуры, адукацыі і нацыянальнага адраджэння—37-74-43, па прамыслова-эканамічных пытаннях—37-06-54, па пытаннях сельскага жыцця—37-06-54, па пытаннях маралі і права—37-31-34, па пытаннях ваенна-патрыятычнага выхавання—37-35-44, аддзел ілюстрацыі і афармлення—37-02-11, рэдактар "Рекламного приложения"—37-45-63, бухгалтэрыя—37-03-69, старшы інспектар па аб'явах—37-21-60. Карэспандэнцкія пункты: Орша—2-42-98, Полацк—4-52-47, Глыбокае—2-19-33, Шуміліна—2-12-40.





Газета выходзіць па аўторках, серадах, пятніцах і суботах.

Набрана і звярстана МКП «ФАРМАТ». Надрукавана афсетным спосабам у абласной узбуйненай друкарні імя Камінтэрна. Віцебск, Шчарбакова-Набярэжная, 6. Аб'ём — 2 друкаваныя аркушы. Фармат А3. Індэкс 63913. Тыраж 23403. Зак. 164.

«ВИТЕБСКИЙ РАБОЧИЙ»— областная независимая массовая газета. На белорусском языке.


◆ *БЕЛДЗЯРЖСТРАХ ГАРАНТУЕ*

# «Лякарствы» ад стыхійных бедстваў

На працягу многіх год наша дзяржава выступала галоўным гарантам пакрыцця ўрону, нанесенага дзяржаўным прадпрыемствам і арганізацыям стыхійнымі бедствамі і рознымі іншымі непрадбачанымі абставінамі. Зараз усё змянілася, і дзяржава ўжо не забяспечвае страхавой абаронай маёмасць прадпрыемстваў. Бюджэт рэспублікі і без таго трашчыць па швах. Развіццё новых форм уласнасці і эканамічных узаемаадносін патрабуе і новых падыходаў да страхавога забеспячэння. І тут гарантам можа стаць Белдзяржстрах. Ці не так? — спыталі мы ў дырэктара прадстаўніцтва Белдзяржстраха па вобласці С.Н.МЯЦЕЛІЦЫ.

— Не толькі можа, але і становіцца, — адказвае Серафім Нікандравіч. — Органы Белдзяржстраха забяспечваюць страхавой абаронай маёмасць прадпрыемстваў ад стыхійных бедстваў, пажараў, аварый... Гэты від страхавання эканамічна выгадны, таму што дае магчымасць пакрыць любы ўрон пры мінімальных затратах прадпрыемства.

— Што па гэтаму віду можна застрахаваць у вас?

— Будынкі, абсталяванне, транспартныя сродкі, сілавыя, рабочыя і іншыя машыны, перадатачныя ўстройствы, аб'екты незавершанага будаўніцтва, інвентар, гатовую прадукцыю, тавары, сыравіну, жывёлу, ураджай сельгаскультур і іншае.

— Уявім такую сітуацыю: прадпрыемства заключыла з Дзяржстрахам дагавор на належачую яму маёмасць на пэўны перыяд, але за гэты час нешта было пабудавана або, напрыклад, закуплена нейкае новае абсталяванне. Яно таксама будзе лічыцца застрахаваным?

— Абавязкова. Прадпрыемства ў такіх выпадках мае страхавую абарону не толькі тых матэрыяльных каштоўнасцей, якія былі ў яго на момант заключэння дагавора страхавання, але і маёмасці, якая паступіла ў перыяд дзеяння дагавора. Прычым, звярніце ўвагу, маёмасць лічыцца застрахаванай без спагнання страхавых плацяжоў.

— Якія стаўкі гэтых плацяжоў?

— Яны розныя — ад 01 да 3 працэнтаў, у залежнасці ад віду дагавора страхавання, роду дзейнасці прадпрыемства, віду маёмасці, а таксама характару рызыкі. Пастаянныя страхавальнікі маюць шэраг ільгот.

Згодна з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб страхаванні", страхавыя ўзносы па абавязковых відах страхавання, а таксама па страхаванню маёмасці юрыдычных асоб, грузаў і рызыкі непагашэння крэдытаў уключаюцца страхавальнікам у сабекошт прадукцыі або работ, паслуг. У выніку названыя страхавыя ўзносы, якія робяць юрыдычныя асобы, а таксама страхавыя пакрыцці, атрымліваемыя імі, падаткамі не абкладаюцца.

Зразумела, у кароткай гутарцы немагчыма падрабязна расказаць аб усіх дэталях і нюансах страхавання маёмасці прадпрыемстваў. Спадзяюся, што многія кіраўнікі зацікавяцца ім. Больш падрабязна з умовамі можна пазнаёміцца ў аддзяленнях і прадстаўніцтве Белдзяржстраха (тэл. 36-56-05).